# Лукашенко подписали приговор

*Окончание. Начало на стр.1*

Минимальные затраты на выборы нового президента Беларуси определены в 18 млн. долларов. Максимальные – в тридцать.

Кремлевское решение было продиктовано двумя обстоятельствами.

Во-первых, сохранение Лукашенко повлечет за собой нарастание активности прозападной оппозиции с реальной угрозой прихода на этот пост кандидата, поддерживаемого США.

Во-вторых, Лукашенко одним своим присутствием дискредитирует в глазах мирового сообщества идею союза России и Беларуси.



### Фрагменты аналитической справки по предвыборной ситуации в Республике Беларусь

«Предвыборная обстановка в р. Беларусь характеризуется резким падением рейтинга Лукашенко А.Г. и консолидацией всех противостоящих президенту сил.

В сентябре 2000 г. появилась тенденция к формированию антилукашенковского единого фронта. Коммунисты, поддерживаемые Западом националисты, радикалы и либералы негласно договорились, не касаясь пока персоналий, солидарно голосовать на предстоящих выборах за единого кандидата в противовес Лукашенко А.Г.

Президенту о достигнутых договоренностях оппозиции известно. О чем можно судить по недавнему интервью Лукашенко А.Г., в котором он говорил, что «размажет» договорившихся между собой коммунистов и фашистов.

По данным последних соцопросов, за единого кандидата от оппозиции готовы проголосовать около 40% респондентов. По Минску эта цифра приблизилась к 80%. Хотя за год до выборов эти цифры соответственно выглядели следующим образом: 22 и 65%.

Оппозиция уже вышла на улицы Минска. Пока это около 5 тыс. человек, в основном молодежь. При небольшом финансовом вливании со стороны правозащитных организаций США число демонстрантов можно легко увеличить до 30-40 тыс. человек. И это притом, что 95% всех СМИ в республике находится в руках исполнительной власти.

Главная причина роста негативных настроений – катастрофическое падение уровня жизни населения.

Общая экономическая ситуация в республике остается весьма неблагоприятной и никаких серьезных изменений на ближайший период не прогнозируется.

Дополнительным фактом, осложняющим общую обстановку, являются отдельные непродуманные, эмоциональные, нелогичные высказывания и поступки самого президента республики, способствующие дальнейшей международной изоляции р. Беларусь.

Несмотря на то, что 79% промышленных предприятий республики за приведенный отрезок времени увеличили выпуск продукции по сравнению с аналогичным периодом 1999 г., 62% промышленных предприятий закончили 9 месяцев 2000 г. с убытками.

С января по сентябрь объемы запасов промышленной продукции на складах увеличились более чем в два раза. Большинству белорусских предприятий трудно обеспечить выпуск конкурентоспособной продукции из-за устаревшего оборудования, избыточного числа работающих, высокого уровня потребления электроэнергии.

Отсутствие инвестиционных ресурсов, необходимых для перевооружения производства, – главная причина кризисного состояния белорусской экономики.

Конкурентоспособность сохраняют пока машиностроительная отрасль и химическое производство, сосредоточенное в гг. Могилев и Гродно.

Большегрузные автомобили белорусского производства находят сбыт в основном в России. А химическая промышленность выживает благодаря заказам Зап. Европы, которая вынуждена сворачивать вредное производство под давлением экологических движений.

Полное отсутствие инвестиций в национальную экономику вынуждает Лукашенко А.Г. идти на необдуманные абсурдные шаги в поисках свободных денежных средств. Так в р. Беларусь введен налог на выпущенную продукцию.

В условиях, когда 62% всех предприятий республики работают на склад, новый налог вынуждает производителей сворачивать производство.

Общая экономическая ситуация в республике остается весьма неблагоприятной и никаких серьезных изменений на ближайший период не прогнозируется.

Среди факторов, осложняющих выдвижение и проведение в президенты своего кандидата, следует выделить три основных:

1. Свободными средствами на проведение президентской предвыборной кампании в р. Беларусь сегодня располагает только команда Лукашенко А.Г. и подпитываемая западными спецслужбами национальная оппозиция.

2. Административный ресурс полностью сосредоточен в руках Лукашенко А.Г. Все государственные посты сверху донизу занимают люди, лично преданные президенту.

3. Согласно Конституции Республики Беларусь, на пост президента может претендовать только тот, кто родился в республике и прожил в ней не менее пяти последних лет.

Политическая и экономическая нестабильность в республике накануне выборов может привести к непредсказуемым последствиям. Вполне возможен «югославский сценарий».

Как наиболее вероятные возможны два варианта развития событий.

1. Победит Лукашенко А.Г. Следует предполагать, что в этой связи усилится прессинг со стороны Запада и будут приняты меры по дальнейшей изоляции р. Беларусь.

Инвестиционных вливаний в экономику ожидать не следует. За счет собственных ресурсных возможностей перевооружение производства республика произвести не сможет.

Отчетливо проявятся кризисные явления в экономике. (Интенсивная эмиссия денег, рост инфляции и др. негативные моменты.) Произойдет дальнейшее падение жизненного уровня населения, который неминуемо приведет к конфронтации с исполнительной властью, дальнейшему размежеванию по доходам населения и массовому протесту трудящихся.

От амбициозности и политической неподготовленности Президента Лукашенко можно ожидать всего, в том числе и поиск главной вины в действиях России.

На интеграционном процессе России и р. Беларусь можно будет поставить крест на несколько лет.

2. Победит представитель оппозиции (по всей вероятности, Запада). В этой связи следует ожидать приход националистически настроенного лидера, ориентированного на Запад, с которым России будет нелегко строить отношения. Р. Беларусь превратится во «вторую Украину».

В этом случае интеграционные процессы будут разрушены. Как крайний вариант, события могут разворачиваться по «югославскому сценарию».

В США активно разрабатываются оба варианта развития событий.

В случае победы Лукашенко А.Г. со стороны Запада будут перекрыты все инвестиции. По прогнозам американских спецслужб, пик народного недовольства придется на 2002 год, и режим Лукашенко будет сметен.

В случае победы на выборах президента р. Беларусь представителя националистической оппозиции, со стороны США планируется мощное инвестиционное вливание в республику, порядка 1 млрд. долларов. Через год жители р. Беларусь забудут о братских чувствах к России.

Со стороны России было бы целесообразно выдвинуть и поддержать на выборах президента Республики Беларусь своего кандидата. Лукашенко А.Г. поддерживают отдельные представители политической и бизнес-элиты России, которые лично завязаны на нелегальные поставки через Республику Беларусь вооружений странам «третьего мира».

В свете вышесказанного рекомендуется:

1. Подыскать надежного, хорошо обученного и подготовленного кандидата среди представителей политических кругов р. Беларусь. Желательно с демократическим прошлым. Кандидат должен полностью соответствовать западным «образцам» демократии, но в принципиальных вопросах всегда поддерживать Россию.

2. Срочно аккумулировать свободные денежные средства на проведение предвыборной кампании. Среди заинтересованных: «Сургутнефтегаз», «ЛУКойл» и «Интеррос».

3. Активизировать работу с бывшими и нынешними сотрудниками КГБ р. Беларусь, ранее служившими в КГБ СССР».

**Газета *Stringer*, №11, апрель 2001 г.**

# Черный день белорусского календаря

## *Не исключено, что скоро телезрители увидят давно обещанное кино*

*Как-то со временем стали считать, что началом конца парламентаризма в Беларуси стал проведенный в ноябре 1996 года референдум. С тех пор мировое сообщество никаких назначенных или избранных парламентов в Беларуси не признает. Однако, на самом деле белорусского парламента фактически уже не стало после других событий. И если в России или так называемом союзном государстве 12 апреля будут отмечать как день космонавтики, то в белорусском календаре событий 90-х он является черным днем.*

Если кто забыл, то можно напомнить, как 12 апреля 1995 года в Овальный зал, где заседал Верховный Совет, ворвались люди в масках и избили, а затем выдворили оттуда народных избранников. Дело было ночью. Группа депутатов оппозиции проводила бессрочную голодовку, которая, как им казалось, могла предотвратить референдум. Первый референдум, проведенный режимом. Главным его итогом была смена национальной символики на советскую и введение государственного двуязычия. Так вот, всю акцию по выдворению депутатов снимали спецоператоры. А чтобы лучше было видно, как били, особенно Зенона Позьняка, периодически в зале включали свет. Говорят, что за всей этой экзекуцией, продемонстрировавшей всю сущность новой власти, откуда-то с галерки наблюдали те, кто отдавал приказ исполнить маски-шоу. Потом выяснилось, что многих избитых депутатов просто вывезли за город и выбросили. Об этом они сами рассказывали своим коллегам по Овальному залу и журналистам. Было даже объявлено, что по факту массового избиения возбуждено республиканской Прокуратурой уголовное дело, которое поручили вести следователю Язепу Бролишсу, получившему широкую известность благодаря объективному заключению по делу о Куропатах.



Фота REX/ProMedia

Тогда, шесть лет назад, многие подумали, что факт избиения парламентариев и возникший в связи с этим скандал приведет к кризису режима. И, возможно, отрезвит его. С публичными объяснениями были вынуждены выступить А.Лукашенко и тогдашний глава его администрации Леонид Синицын. Было даже обещано показать кино про избитых депутатов по Белорусскому телевидению. По некоторым данным, видеокассеты оказались у Л.Синицына. Как говорил А.Лукашенко, вот только на какой-то Бетакам перегнят и покажут. По словам Леонида Миндлина, возглавлявшего в то время студию «Политика» на БТ, съемки спецоператоров в ночном Овальном зале действительно были переведены на систему Бетакам, которая позволяет показать отснятый телекамерами материал по телевидению для широкой аудитории. Однако в последний момент был дан отбой. Понятно, что его мог дать только один человек. К тому времени, как говорят знающие люди, отснятые видеокассеты уже находились в руках Владимира Заметалина, после недолгого перерыва успевшего вернуться во власть. Видимо, при всей шлифовке видеоматериал все же представлял опасность для авторитета власти. И обещанного кино телезрители так и не увидели. Многие даже забыли об этом. Но не все. По слухам, кино о «разминировании» здания Верховного Совета (формально это стало поводом выдворения депутатов) может существовать до сих пор не в одном экземпляре, и его широкий показ вполне может сгодиться в период предвыборной кампании. Естественно, если и станут показывать, то не по Белорусскому телевидению. Вполне возможно, что такое кино может стать черным днем и для тех, кто усиленно его скрывает. И если послание В.Путина своему Федеральному собранию затмил скандал с НТВ, то вчерашнее послание А.Лукашенко своему Национальному собранию может затмить показ кино про избиение депутатов. В оппозиции уверяют, что имеются и некоторые другие интересные сюжеты, которые она готовится показать.

Но к оппозиции к А.Лукашенко, к которой обычно причисляют БНФ, ОГП, социал-демократов, других партийцев и объявленных кандидатов в президенты, пока воздерживаются причислять Леонида Синицына. Тем не менее, судя по поступающей из различных источников информации, дана из самого верха санкция на «разработку» Л.Синицына. На проводимых главой президентской администрации Михаилом Мясниковичем закрытых совещаниях, экс-глава администрации и предвыборного штаба Лукашенко обрисовывается как опасный враг, способный аккумулировать солидную поддержку со стороны властных российских кругов. В общем-то, такие опасения правящего режима не беспочвенны. Способность воспринять идеи оппонирующего к нынешней власти Л.Синицына продемонстрировали недавно побывавшие в Минске президент Российского союза промышленников и предпринимателей Аркадий Вольский и заместитель председателя Совета директоров Альфа-банка Олег Сысуев.

Не секрет, что между бывшим и нынешним главой президентской администрации существуют глубокие личные антипатии. Хотя бы и потому, что один был начальником победившего в 1994 году предвыборного штаба, а другой проигравшего. Кроме того, именно М.Мясникович приложил максимум усилий для того, чтобы не допустить участия Л.Синицына в парламентских выборах в 2000 году.

Нынешняя активность Л.Синицына базируется на ряде инициатив, которые получили название «Программа 5 плюс». Стоит заметить, что первую инициативу о запрете широкой приватизации крупных объектов белорусской собственности до проведения президентских выборов, глава государства проглотил. Им публично было заявлено, что до обещанных выборов такой приватизации не будет. На многих наблюдателей это достижение Л.Синицына произвело впечатление. Они полагают, что в скором времени активность Л.Синицына усилится. И проявиться его активность должна не только в рассуждениях о будущем, но и недавнем прошлом Беларуси.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

# Нясвіж у XXI стагоддзі

*У новым стагоддзі ў Беларусі зноўку загаварылі пра рэстаўрацыю гістарычнага цэнтра Нясвіжа, вядомага ў летапісах з 1223 года і здаўна называнага «беларускім Парыжам». Хоць гаворцы пра пачынанні ў гэтай справе ўжо не адно дзесяцігоддзе. Што ж маркуюць зрабіць рэстаўратары з трыма самымі вядомымі нясвіжскімі архітэктурнымі збудаваннямі – Радзівілаўскім замкам, касцёлам ды ратушай?*





Старажытная нясвіжская ратуша. Злева: выгляд да рэстаўрацыі, справа: выгляд пасля рэстаўрацыі

Для пачатку, паводле рашэння мясцовага райвыканкама, Нясвіжскі замак пакіне санаторная ўстанова, якая там месціцца. У 1945 годзе Саўнаркам аддаў замкавую забудову міністэрству аховы здароўя, і адпачывалі тут збольшага партыйныя чыноўнікі. Напачатку 90-ых гадоў урад В.Кебіча перадаў санаторый «Белміжкалгаслячэбніцы». Адсяленне мусіць адбыцца да 1 ліпеня 2001 года. Палаца-паркавы комплекс 16-18 стагоддзяў будзе перададзены Нацыянальнаму гісторыка-культурнаму музею-запаведніку «Нясвіж». Пасля высялення санаторыя замак, узведзены напрыканцы 16-га стагоддзя пры Мікалаі Радзівілу Сіротку італьянскім архітэктарам Бернардоні, між іншым, збудаваўшага храм Хрыста ў Рыме, пачнуць рыхтаваць да рэстаўрацыі: будуць праведзеныя адмысловыя археалагічныя і натурныя даследаванні самога замка, кансервацыя разбураных частак замка (прыкладам, у жудасным стане знаходзяцца дах і гадзіннікавая вежа), а таксама работы па разборцы прыбудаваных да яго пазнейшых канструкцыяў.

Па сканчэнні рэстаўрацыі Беларусь збіраецца хадайнічаць аб уключэнні Нясвіжскага замка ў Спіс сусветнага культурнага і прыроднага набытку (зараз там толькі Мірскі замак і Белавежская пушча). З санаторыя замак ператворыцца ў музей і, не выключана, у месца для міжнародных сустрэчаў. Магчыма, тут з'явіцца невялічкі гатэль. Дарэчы, пры фармаванні будучай музейнай экспазіцыі нанова і міжволі будзе ўзнятае пытанне рэстытуцыі. Згадайце хоць бы славуты тузін залатых апосталаў. Хто толькі з прыхадняў ні рабаваў радзівілаўскія скарбы! Толькі ў Расіі іх – спадчына расійскіх генералаў 1812 года — не на адзін музей. Па праблеме вяртання нясвіжскіх каштоўнасцяў папярэдняя дамоўленасць маецца толькі з польскім бокам. Палякі абяцаюць аддаць назад у замак калекцыю партрэтаў рода Радзівілаў, падораную савецкім кіраўніцтвам яшчэ да вайны польскаму прэзідэнту Беруту. Праўда, пры гэтым правы ўласнасці на карціны застануцца Польшчы.

Аднак, памятаючы досвед з Мірскім замкам, які рэстаўруецца ўжо амаль 20 гадоў, самая вялікая праблема наперадзе — не ператварыць рэстаўрацыю Нясвіжскага замка ў даўгабуд, прычым замак у Нясвіжы што да рэстаўрацыі куды складаней, чымсьці ў Міры. Без інвестыцыяў пазбегнуць гэтага не ўдасца. Але ахвотных выдаткоўваць грошы на Нясвіж пакуль не багата. Справа ў тым, што патэнцыйныя інвестары баяцца, што пасля рэстаўрацыі Нясвіжскі замак стане прэзідэнцкай рэзідэнцыяй А.Лукашэнкі. Але, па-першае, такая маштабная рэстаўрацыя – у любым выпадку працэс, які будзе доўжыцца гадамі, а новы прэзідэнт такога жадання можа і не мець. Па-другое, як давялі ў аддзеле музеяў міністэрства культуры, кажуць, што намераў зрабіць замак Радзівілаў прэзідэнцкай рэзідэнцыяй і зараз няма, бо там амаль пэўна будзе музей. Хоць раней пра гэта заяўлялася неаднойчы.

Да ўсяго яшчэ да рэканструкцыі давядзецца вырашаць няпростую праблему з адсяленнем санаторыя. Тамтэйшы персанал у колькасці 80 чалавек ужо лістуе да Нясвіжскага райвыканкама і мінкульта, скардзячыся, што пра іхняе працаўладкаванне загадзя ніхто не падумаў. Разам з тым, людзі даводзяць, што менавіта дзякуючы таму, што ў замку знаходзіўся санаторый, тут вёўся сякі-такі цякучы рамонт, і слыннае радавое гняздо князёў Радзівілаў не занепала яшчэ больш. Для разбіральніцтваў па шматлікіх пытаннях, звязаных з маючай адбыцца рэстаўрацыяй, у красавіку ў Нясвіж выязджае адмысловая мінкультаўская калегія на чале з міністрам культуры Леанідам Гулякам.

Відаць, будзе там абмяркоўвацца і праект па аздабленні інтэр'ераў размешчанай на галоўнай плошчы Нясвіжа гарадской ратушы, падрыхтаваны сумесным польска-беларускім прадпрыемствам «Рэнаватум» і разлічаны на 5 гадоў. Вонкавая рэканструкцыя ратушы была праведзеная некалькі гадоў таму. Тады з яе прыбралі выяву зоркі (раней тут месціўся Дом піянераў), надбудавалі вежу. Адно што помнік Леніну насупраць так і застаўся стаяць, але гэта ўжо з'ява не архітэктурная, а палітычная, і хочацца верыць, часовая.

Цяпер чарга ўнутранай рэстаўрацыі. Прычым праводзіць яе плануецца паводле фотафіксацыяў помнікаў-аналагаў – польскіх ратушаў у гарадах Торунь, Познань, Хелмно, Кракаў і іншых. Рэстаўрацыйны праект нясвіжскай ратушы будзе сімбіёзным і прадугледжвае стварэнне пяці залаў збольшага з муляжамі элементаў старажытнага інтэр'ера і копіямі дакументаў. Найперш гэта Зала святочных паседжанняў ці Зала Рады, дзе будуць знаходзіцца копія прывілеі аб магдэбургскім праве, ключ горада, гербы Нясвіжа і Радзівілаў, тагачасная мэбля, партрэты прадстаўнікоў дынастыі і каралёў Рэчы Паспалітай. Далей ідзе Зала суда з скульптурай «Феміда правасуддзя», з адзеннем суддзяў, прыстасовамі для катавання і пакарання і многімі іншымі прадметамі, што тычыцца судовай справы. Апрача таго, адмыслова будуць аздобленыя Канцылярыя пісара, Скарбніца, Кабінет бургамістра, Архіў. Каштарыс рэстаўрацыйных работ у ратушы, як і ў замку, пакуль не падлічаны. Вядома адно – сумы пойдуць на гэта вялікія. У міністэрстве культуры кажуць, што ледзьве не палова ад усіх іхніх выдаткаў. Прыярытэт як ніяк.

Ёсць што ладзіць і ў нясвіжскім касцёле, узведзеным болей 400 гадоў таму ў стылі барока тым жа самым італьянцам, манахам-іезуітам Бернардоні. У касцёльных склепах па-ранейшаму знаходзіцца каля 80 трунаў-саркафагаў з целамі княжскага роду Радзівілаў. Дык вось у касцёле трэба аднаўляць адну са сценаў, якая нядаўна абвалілася.

Што да іншых элементаў архітэктурнага ансамбля ў гістарычным цэнтры Нясвіжа, то ўлетку ў аднапавярховым будынку колішняй ваеннай камендатуры адчыніцца выставачная зала, куды будуць прывозіцца на паказ экспазіцыі з музеяў іншых нашых гарадоў.

Нарэшце, рэстаўрацыя ратушы і замка мусіць суправаджацца аднаўленнем краявіду гэтай мясціны. Напрыклад, варта было б як след добраўпарадкаваць прызамкавы парк, які разбіты на 100 гектарах абшараў, а таксама «разабрацца» з жытловым чатырохпавярховым будынкам, што недарэчна ўзведзены некалькі дзесяткаў гадоў таму каля ратушы на старой дарозе да касцёла. Атрымліваецца, што архітэктурная дапасаванасць паміж імі нібыта трохі знівеліраваная. Зносіць дом у якасці выйсця, мабыць, занадта турботна і дорага, бо ўсё ж там багата людзей жыве. А вось зрабіць у ім арку і аднавіць такім чынам стары шлях можна было б. У любым выпадку трэба неяк выпраўляць «саўковыя» недарэчнасці, хоць бы часткова вяртаючы натуральнасць. Тым не менш, апошняе слова за спецыялістамі.



Фота IREX/ProMedia

Нясвіжскі касцёл Божага цела

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

АРХІВАРЫУС

# О государственном гимне Советского Союза

*Принятый Россией сталинско-брежневский гимн с некоторыми словесными исправлениями, который вполне может быть предложен в качестве гимна так называемого «союзного государства», пережил подобные изменения в 1977 году. Как это оформлялось, освещает речь М.Суслова перед членами Политбюро ЦК КПСС.*

Сообщение тов. Суслова М.А.

Товарищи! На рассмотрение Пленума внесен вопрос о Государственном гимне Советского Союза. Предварительно этот вопрос обсуждался Секретариатом и Политбюро ЦК КПСС, которые одобрили текст Государственного гимна Советского Союза в новой, существенно измененной редакции, а также музыкальную редакцию гимна, в основном сохраняемую.

Постановка вопроса о Государственном гимне Советского Союза обусловлена тем, что нынешний гимн был принят, как известно, в 1943 году и, естественно, ряд положений в его тексте ныне устарел. В нем содержатся, в частности, такие слова: «Нас вырастил Сталин» и т.д. В то же время в гимне ничего не было сказано о Коммунистической партии и ее исторической роли в нашем обществе.

На текст гимна большой отпечаток наложили условия Великой Отечественной войны, которую вел тогда советский народ. В тех условиях актуально звучали слова гимна:

*«Захватчиков подлых с дороги сметем!*

*Мы в битвах решаем судьбу поколений».*

В нынешних условиях эти слова утратили свое прежнее значение, а вторая строка может быть неправильно понята за рубежом.

Текст гимна не отвечает современным требованиям также и потому, что идеалы коммунизма, которые служат советскому народу путеводной звездой, в гимне приглушены.

Центральный Комитет партии счел необходимым провести кропотливую работу по улучшению текста гимна, устранению отмеченных в нем недостатков. При этом большое внимание уделялось тому, чтобы привести текст Государственного гимна в соответствие с новым этапом в жизни нашей страны.

Со времени принятия гимна прошло более 33 лет. За это время в нашей стране произошли колоссальные изменения в экономической, социальной и культурной жизни: построено развитое социалистическое общество, успешно создается материально-техническая база коммунизма, происходит дальнейшее укрепление дружбы всех советских народов. Строительство коммунизма стало непосредственной задачей нашего общества. Естественно, что Государственный гимн Советского Союза призван идейно отразить эти изменения.

Для подготовки нового гимна проведена большая работа. Был объявлен конкурс для подготовки новых вариантов текста гимна. В этом конкурсе приняли участие 67 поэтов, в том числе В.Боков, П.Бровка, С.Васильев, С.Викулов, Е.Винокуров, Н.Грибачев, Е.Долматовский, Н.Доризо, М.Дудин, Н.Заболоцкий, М.Исаковский, С.Кирсанов, М.Матусовский, С.Михалков, С.Островой, Л.Ошанин, А.Прокофьев, Н.Рыленков, М.Рыльский, Р.Рождественский, А.Софронов, К.Симонов, С.Смирнов, А.Твардовский, Н.Тихонов. Ими было представлено 83 варианта текста гимна.

Одновременно около 80 композиторов, в том числе Б.Александров, А.Бабаджанян, И.Дзержинский, Д.Кабалевский, Г.Майборода, К.Молчанов, В.Мурадели, А.Новиков, Г.Свиридов, В.Соловьев-Седой, А.Хачатурян, А.Холминов, Т.Хренников, Д.Шостакович, Р.Щедрин, работали над музыкой гимна.

Как видите, к работе над гимном были привлечены лучшие силы. Работа продолжалась несколько лет.

В ходе этой работы ведущие композиторы страны неоднократно указывали на целесообразность сохранения музыки гимна А.В. Александрова.

По указанию ЦК КПСС начиная с 1972 года велась дальнейшая работа над редакцией музыки и текста гимна, созданного А.В. Александровым, С.Михалковым и Эль-Регистаном.

Над редакцией текста работали тов. С.Михалков, С.Наровчатов, Р.Рождественский, Я.Козловский и другие поэты. В качестве консультантов привлекались писатели Н.Тихонов и Г.Марков.

Наиболее приемлемыми оказались предложения Сергея Михалкова, и поэтому авторами текста гимна по-прежнему остаются С.Михалков и Эль-Регистан.

В работе над музыкальной редакцией участвовали Шостакович, Хачатурян, Хренников, а также Б.Александров, А.Бабаджанян, Я.Френкеяь, Р.Щедрин. Сохранив исполняемую ныне мелодию гимна (автор А.В. Александров), они многое сделали для того, чтобы улучшить характер его звучания, придать ему большую торжественность, распевность, мелодичность.

В результате тщательного рассмотрения представленных материалов пришли к выводу, что целесообразно остановиться на предлагаемом вашему вниманию варианте гимна.

Новый Государственный гимн Советского Союза соответствует современным условиям развития нашего общества, является гимном, торжественно провозглашающим победное шествие трудящихся нашей страны под руководством Коммунистической партии Советского Союза к великой цели — коммунизму. Новый гимн вместе с тем сохраняет преемственность, некоторые важные положения старого гимна.

В настоящее время Гимн Советского Союза в новой редакции записан на магнитной ленте в исполнении хора и оркестра Большого театра СССР, а также Отдельного показательного духового оркестра Министерства обороны СССР. Нам предоставляется возможность ознакомиться с Государственным гимном Советского Союза в новой редакции.

Исполняется музыка Государственного гимна Советского Союза. *(Все встают.)*

Затем прослушивается Гимн Советского Союза в хоровом исполнении. *(Аплодисменты.)*

